# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 21 (952) ГОД XIX БЕЛАСТОК 26 МАЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.


У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ




Піражкоўскі аматарскі драматычны калектыў на беластоцкай сцэне выступаў у нейкай меры выпадкова. Проста арганізавалі павятовы агляд калектываў і неяк не было канкурэнтаў. Зрэшты, была тэта ініцыятыва самой моладзі з Піражкоў.

Піражкоўская моладзь згуртавана вакол кіраўніка святліцы Расціслава Алекшы. Тут адбываюцца сустрэчы, сходы, тут гуляюць маладыя людзі. Да інсцэнізацыі „Мікітавага лапця“ дайшло проста. Прыпомнілі сабе маладыя людзі, што калісьці іх старэйшыя сябры атрымалі дыплом за ўдзел у аглядзе аматарскіх калектываў. І захацелася ім быць не горшымі, а мо, праз нейкі час, і лепшымі. Чаму ж бы не? Жыццё ідзе ўперад. Удзел у падрыхтоўцы новай п'есы прыняў авангард маладых вёскі. Многія вучацца яшчэ ў сярэдніх школах. Іншыя ўжо працуюць.

Кіруе калектывам Пётр Алекша, адначасова старшыня гуртка БГКТ у вёсцы. Хлопец здае ў гэтым годзе матуру. Іграў галоўную ролю — Мікіты. Потым бачым у п'есе радню, гэта брат з сястрой: Віталій і Арыядна Алекша. Ён працуе радыё-тэлевізійным манцёрам у Саколцы, яна — выхавацельніцай прадшколля ў Крынках. Вяслава Кандратовіч працуе ў ОСМ у Саколцы, а Міраслаў Дзмітрук на гаспадарцы; Генрык Кузьміцкі вучыцца ў Беластоку, а Рамуальда Кузьміцкая нядаўна распачала працу краўчыхі ў Гарадку. Вось і ўсе героі беларускай п'есы „Мікітаў лапаць“, у якой піражкоўская моладзь зноў пасля перапынку выказала свой талент.

Мала іх у вёсцы пражывае дзень за днём. Большасць прыязджае на нядзелю, на канікулы. На канікулах у святліцы можна рабіць вечарынкі з рознымі конкурсамі. Ёсць тут тэлевізар, радыё, магнетафон. А як збяруцца грама-

(Працяг на стар. 5)

◆

*Арыядна Алекша — майстар аматарскай сцэны. Узнагарода „Нівы“ для найлепшага акцёра агляду беларускіх драмгурткоў БГКТ у 1974 г.*






Ледзь заплюшчацца вочы
на сон,
Мне здаецца:
У роднай я хаце...
І мяне прыкрывае крысом
Незабыўная родная маці.
Прыціскае да цёплых грудзей,
Ну, а потым у поле ідзе
Жыта жаць на пясчаным
падлессі.
Вось у школу іду ўпершыню,
Побач крочыць са мною і маці,
Я ў марах бяру вышыню,
А тулюся бліжэй усё да маці.
Час ішоў.
Мяне клікала даль
У таемны, няведамы вырай!..
Дзе б мяне не кружыла жыццё:
На далёкіх
Ці блізкіх паўстанках —
Яна шле мне свае пачуццё,
Аддае мне душу сваю цалкам.
Вось дажыў я да ўласных
дзяцей.
Сівізною пакрыліся скроні,
А для маці —
вясновы я дзень
І някемны сынок яе кроўны.
Яна гладзіць мае валасы,
Абдымае дрыготна, пяшчотна.
І слязінкі, як каплі расы,
Пакрываюць гарачыя шчокі.
Так заўжды
да самой сівізны
Мы для маці —
гаротныя дзеці.
Яна руліцца, сніць пра нас
сны,
Больш нішто ёй не трэба на
свеце.
Маці родная!
Шчырасць тваю,
Цеплыню і зямныя парады
Я ніколі нідзе не таю —
Ганаруся я імі на радасць
І табе, і сабе, і сябрам,
І ўсяму чалавечаму роду.
Колькі сееш ты людзям дабра
І як красіш ты матку-прыроду!
Ні вайна і ні здзекі людзей,
Апранутых у воўчыя скуры,
Не змаглі перашкодзіць нідзе
Тваёй шчодрасці здрадаю
хмурай.
Ты сыноў зберагала ад куль,
Ад паклёпу і злога
пляткарства.
Ты заўсёды прыходзіш адтуль,
Дзе жыве чалавечнасці
царства.
Ты вучыла і вучыш нас жыць
Да сканчэння ўласнага веку,
Ты вучыла і вучыш любіць
Працу творчую
і Чалавека.

**Павел Пруднікаў**







Стаім на панадворку: Дзмітры Лаўрыновіч, яго сын Мікалай і ўнук Лёня ды я — госць у гэтай кампаніі трох пакаленняў. Разглядаюся па сялібе маіх гаспадароў. Жылы дом — драўляны, даўнейшы, відаць у ім даваенная мода не надта к багатых і не бедных сялян. Затое гаспадарчыя будынкі — о, тут ёсць на што паўзірацца! Адразу відаць, што сустрэўся я з гаспадаром, які ведае, чаго можна і трэба патрабаваць ад зямлі.

Мы разгаварыліся. Самы старэйшы з Лаўрыновічаў, дзядзька Дзмітры, якому ўжо 83 гады, памятае яшчэ той час, калі цяперашнія Пасечнікі Вялікія акружала дрымучая пушча. І зараз гэтая вёска распаўзлася па хутарах сярод лугоў і пералескаў.

— Хутары ў нас яшчэ з даваеннага часу, — расказвае дзядуля, адклаўшы сякеру, якой ён спраўна цясаў дошкі. Пасля я даведаўся, што гэта матэрыял на хату для ўнучкі, якая ў гэтым годзе канчае ў Бельску тэхнікум сельскагаспадарчага рахункаводства, і таму бацька рашыў у пасаг падараваць ёй мураваны асабняк. Пляц у Гайнаўцы ўжо купілены, чакае будовы.

— Вось тут усё гэта, — прадаўжаў свой расказ дзядзька Дзмітры, — было ўласнасцю бельскіх мяшчан. Адкупілі мы гэтую зямлю ў пачатку дваццатых гадоў. Запазычыліся па горла. Да самай вайны яшчэ з даўгоў не павылазілі.

І так урасталі яны ў гэтую зямлю, закараняліся, як пушчанскія дубы. Спадарожнічала ім безупынная, назойлівая праца і запаветная мара, каб урэшце пазбыцца даўгоў.

— Белы хлеб і цукар бачылі мы толькі на Вялікдзень, — кажа прадстаўнік другога пакалення Лаўрыновічаў, Мікалай Лаўрыновіч, цяперашні гаспадар. Толькі яму, ужо пасля вайны, удалося неяк выйсці на сваё. Аднак і на яго долю прыпала нялёгкая жыццёвая нагрузка. У час акупацыі гітлераўцы забралі яго ў Германію. У чэрвені 1946 года вярнуўся дамоў, праз тры гады ажаніўся і пачаў гаспадарыць.

Новае пачалося ў Пасечніках у 1950

(Працяг на стар. 4)




**На фабрыцы кветак і гароднiны (Ігнаткі) ● У самадзейнікаў з Катлоў ● Каб неяк да смерці... (Райкі) ● Кнігі Савецкай Беларусі ● Новыя творы „белавежцаў“ ● Ці вы былі ў Скупавічах? — пытае Ларс ● Весткі з Кнышэвіч, Гайнаўкі, Гуран, Тарнопаля, Белавежы, Дубіч Царкоўных, Міхалова, Бабікаў, Чыжоў і інш. ● Песня з рэпертуару Чырвоных Гітар**
„Hej, przyjacielu”.



У МАЙСТЭРНЯХ МАСТАКОЎ




Анатоль Корзун — цікавы мастак. Ён ураджэнец вёскі Арэшкава Гайнаўскага павету. Працуе настаўнікам у гайнаўскім ліцэі з беларускай мовай навучання. Дыплом настаўніцкай студыі атрымаў у Лодзі. Цяпер завочна вучыцца на аддзяленні жывапісу Торуньскага універсітэта. Член Саюза польскіх мастакоў. У школе вядзе прадмет пластычнага выхавання. Перадае свае багатыя веды, вопыт і сваё вялікае захапленне мастацтвам гайнаўскім ліцэістам, а таксама моладзі, якая займаецца ў гуртках зацікаўлення. Яго ранейшыя вучні з мастацтвам звязаліся на ўсё жыццё. Аня Шыла паступіла на аддзяленне жы-

(Працяг на стар. 2)

 

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА

## Слаўныя традыцыі інстытута

Ёсць у Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце слаўныя традыцыі. Адна з такіх традыцый — вечары, прысвечаныя выдатнікам вучобы, актывістам грамадскай працы, спартсменам і г.д.

У суботні вечар у актавым зале інстытута сабраліся выкладчыкі, госці і студэнты заатэхнічнага факультэта. З вялікай цеплынёй віталі студэнты перадавікоў грамадскай працы, выдатнікаў і спартсменаў. Права заняць ганаровыя месцы ў прэзідыуме было дадзена лепшым з лепшых студэнтаў. Ганаровая істужка і памяткі былі ўручаны Д. Бубнову, М. Сялевічу, Н. Максімавай, Р. Рамашэвічу, Н. Татаркінай, В. Урбану і многім іншым.

Ад імя ўсіх выкладчыкаў павіншаваў іх дзекан заатэхнічнага факультэта І. Г. Ялісееў і пажадаў добрага здароўя, вялікіх поспехаў у вучобе, спорце і грамадскай працы.

— Многія выпускнікі вашага інстытута працуюць у Брэсцкім раёне. Яны паказалі сябе сапраўднымі майстрамі свайёй справы, — сказаў старшыня калгаса „Зара“ А. Е. Гуцаў.

Па выніках спаборніцтва паміж групамі заатэхнічнага факультэта першае месца заняла першая група IV курса. Яна ўзнагароджана пераходным вымпелам і пуцёўкай для паездкі ў горад Брэст.

Гэты ўрачысты вечар застанецца ў памяці многіх студэнтаў. Такія добрыя сустрэчы радуюць, натхняюць на яшчэ больш плённую вучобу і працу.

### РУКАТВОРНЫЯ ВАДАЁМЫ

Непадалёк ад вёскі Лаздуны — цэнтра калгаса „Перамога“ Іўеўскага раёна — у гэтым годзе паявілася возера плошчай 62 гектары. Яно добра ўпісалася ў тутэйшы пейзаж.

Возера зроблена сіламі мясцовых меліяратараў. Ягс вадой будуць наваднярацца прылягаючыя культурныя пасбішчы — калгас набыў дажджавальную ўстаноўку тыпа „Фронт“. У возеры вырашана разводзіць рыбу. Акрамя таго, з часам яно стане добрай базай адпачынку для працоўных сяла. Тут намечана абсталяваць пляж, пасадзіць дрэвы, зрабіць лодачную станцыю.



*На цэхавым складзе гатовага шыфера цэментнага завода „Перамога“.*
*Фота В. Косціна.*

Пачатак на стар. 1

## КАРЦІНА ПАЧЫНАЕЦЦА З ДУМКІ

вапісу Торуньскага універсітэта. Янка Салавянюк вядзе заняткі па малюнку ў адной з гайнаўскіх школ. Ён з'яўляецца выпускніком ВСП — займаўся на педагагічна-мастацкім аддзяленні. Мікалай Давідзюк працуе асістэнтам вышэйшай навучальнай установы на аддзяленні жывапісу.

Карціны яго наймалодшых выхаванкаў атрымалі высокую ацэнку на Міжнароднай выстаўцы дзіцячага жывапісу ў Берліне.

Любоў да мастацтва ў Анатоля Корзуна праявілася ў раннія гады. Многа вучыўся, каб пазнаць тайны мастацкай мовы. Дапамагла яму ў гэтым асабістая ўражлівасць і дапытлівасць. Многа прыйшлося папрацаваць. Усяцэла аддаваўся графіцы. Як у кожнага пачынаючага, творчыя поспехі былі, што змаганне альпіністаў за вяршыню гары.

Затым прыйшлі першыя індывідуальныя выстаўкі ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы, у клубе „7“ і ў будынку ЗПАП у Беластоку. Дагэтуль сабралася іх сем.

Пару год таму назад Анатоль Корзун удзельнічаў у экскурсіі, якую арганізавала Галоўнае праўленне ЗНП у Ленінград. Пасля паездкі А. Корзун напісаў цікавыя карціны: „Ісакіеўскі сабор“, „Кіраўскі мост“, дзесяткі малюнкаў і экскізаў.

Тыднёвік „Глос научыцельскі“ змясціў цыкл яго графік пад загалоўкам „Канікулы“. У далейшых творчых пошуках А. Корзун прысвяціў многа ўвагі чалавечым філасафічным роздумам, яго настроям. У яго карцінах удумлівая пабудова кампазіцыі, адточанасць думкі, страснасць, філасафічнасць. Яны запамінаюцца. Іх купляюць установы, яны трапляюць у прыватныя калекцыі.

Анатоль Корзун пастаянна шукае новыя аспекты ў вырашэнні тых тэм, якія яго найбольш хвалююць. Бо, як сам напамінае ў размове, карціна нараджаецца з думкі.

— Чым цяпер займаюся? Рыхтую індывідуальную выстаўку, якая будзе экспанавана ў 1975 годзе ў Беластоку. Апошнюю маю выстаўку можна яшчэ паглядзець у Доме настаўніка ў Гайнаўцы. У вольныя хвіліны? Перачытваю творы Васіля Быкава і паэзію Сяргея Ясеніна.

Я. Цялушэцкі

## БГКТ ХРОНІКА

■ 10 сакавіка пленарнае пасяджэнне гарадскота праўлення аддзела БГКТ у Беластоку вырашала, як найбольш урачыста адзначыць XXX гадавіну Народнай Польшчы. На гэтую тэму быў прачытан даклад старшыні аддзела Мікалая Гайдука, пасля яго разгарнулася вельмі плённая дыскусія. Выступілі ў ёй: Кастусь Масальскі, Уладзімір Навіцкі, Анна Амбражэй, Іван Стрышко, Міхась Усціновіч, Анатоль Казімерук, Янка Ахрымюк, Валянціна Філіпюк і сакратар ГП Янка Зенюк. Гаварылі яны аб добра праведзеным песенным конкурсе, аб добрай праграме і высокім мастацкім узроўні свайго калектыву песні і танца, якому трэба было б прыдумаць якуюсь сэнсоўную назву, аб патрэбе стварэння драматычнага калектыву, аб ўшанаванні гадавіны ПНР салідная грамадскай працай на карысць горада Беластока, аб падрыхтоўцы спаткання з заслужанымі людзьмі — арганізатарамі народнай улады на Беласточчыне, аб падрыхтоўцы спаткання з былымі партызанамі і экскурсій шляхамі іх баёў у паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны, аб арганізаванні ўрачыстых вечароў у гонар 22 ліпеня і ў гонар XXX гадавіны вызвалення Беластока (27 ліпеня), аб стварэнні „Залатой кнігі“ заслужаных людзей аддзела, аб наладжванні фотавітрыны з жыцця аддзела. На аснове дыскусіі пленум прыняў багатую праграму мерапрыемстваў з нагоды юбілейнага года нашай дзяржавы. У гэтай праграме запланавана, што гарадскі калектыў песні і танца будзе ездзіць з канцэртам на народныя фэсты ў пасобныя аддзелы і што гарадскі аддзел 8 чэрвеня прыме ўдзел у грамадскім чыне.

■ Святкаванню XXX гадавіны Народнай Польшчы быў прысвечаны таксама пленум сакольскага аддзела БГКТ. Апрача членаў пленума, выступілі ў дыскусіі сакратар павятовага камітэта партыі Станіслаў Шпакоўскі і старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Усе выступаючыя звярнулі ўвагу на неабходнасць арганізацыйнага ўмацоўвання БГКТ на Сакольшчыне, на актывізацыю гурткоў БГКТ у грамадскай і культурнай дзейнасці, а Віталіс Сідараў сваё выступленне прысвяціў арганізаванню ў Крынках харавога калектыву. Прадстаўленая старшынёй аддзела Сцяпанам Лукашуком праграма святкавання XXX гадавіны Народнай Польшчы была прынята членамі пленума.

■ Кожны год у маі адзначаюцца ў нашай краіне Дні культуры, асветы, кніжкі і прэсы. 12 мая з гэтай нагоды ў Беластоку выступілі харавыя калектывы з Бельска, Дубяжына і Гарадка. У гэты дзень быў таксама арганізаваны вялікі кніжны кірмаш. У адным з кіёскаў прадаваліся кніжкі, выдадзеныя ГП БГКТ. Карысталіся яны вялікім зацікаўленнем. Сакрат Яновіч падпісваў свае кніжкі „Загоны“ і „Вялікі горад Беласток“.

■ Сакрат Яновіч правёў аўтарскія сустрэчы 9 мая ў Пагажалках, а 12 мая ў клубе на вуліцы Абознай у Стараcельцах. (мх)

## ШТО НОВАГА?

### У Кляшчэлеўскай гміне

На маё пытанне: — Што новага ў вашай гміне?

Адказвае начальнік Кляшчэлеўскай гміны Андрэй Місеюк, чалавек яшчэ зусім малады, але ўжо вопытны, добры спецыяліст па сельскагаспадарчых справах.

— Рашылі мы адрамантаваць вясковыя клубы „Рух“ у Сухавольцах, Тапарках і Дабрывадзе. У Палічнай мясцовы клуб „Руху“ будзе грунтоўна перабудаваны. Ён атрымае залы для бібліятэкі і чытальні, будзе асобная зала для кінафільмаў і мастацкай эстраднай дзейнасці, а таксама прадбачваюцца пакойчыкі для іншых заняткаў. У планах будова падобных клубаў у вёсках Дашы і Грузкая.

У чэрвені распачнем рамонт усіх школ, каб з новым школьным годам дзеці вучыліся ў лепшых умовах.

28 красавіка наладзілі мы традыцыйную „Зялёную нядзелю“, і ў гэты дзень насельніцтва гміны засадзіла амаль 20 гектараў лесу. Асабліва актыўна папрацавалі жыхары Сухавольцаў і члены Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі з тэрыторыі ўсёй гміны. Была гэта ўжо бадай 10-ая „Зялёная нядзеля“. Дзякуючы гэтым нядзелям на пясчаных узгорках расце цяпер густы лес.

Жыхары вёсак Сакі і Тапаркі, а таксама Паграбы, Жукі і Дашы шмат часу працавалі пры пабудове і рамонце дарог. Моладзь з Дабрывады і Тапаркоў пасадзіла ў сваіх вёсках па звыш 1000 дрэўцаў. Жыхары Сухавольцаў рашылі, што ў іх вёсцы не будзе ніводнага драўлянага плоту. Гэтая вёска ўжо здаўна славіцца сваёй прыгажосцю. Калі аднак цалкам знікнуць там драўляныя платы, а жалезная агароджа зазіхаціць шматлікімі колерамі і ў агародчыках зацвітуць кветкі, тады Сухавольцы яшчэ болей папрыгажэюць. Цяпер там ідзе падрыхтоўка да пабудовы водаправодаў і вулічнага тратуару. Сухавольцы заслужылі на гэта. (вр)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 26.V.** 6.30 Tech. Rol. Jęz pol. 7.00 Upr. rośl. 7.30 Kurs Rol. 8.15 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.25 Nowoczes. w domu i zagr. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Ex libris. 10.30 Piosenka dla Ciebie. 11.20 Klub Sześciu Kont. 12.05 Dziennik. 12.25 W starym kinie. 13.20 My 74. 14.25 Nie tylko dla pań. 14.50 Koncert z okazji Dnia Matki. 15.50 Los. Toto — Lot. 16.05 Tele — Echo. 16.55 Piłka nożna NRF — Brazylia. 18.45 Refleksje ob. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Odyseja — film wł. 21.15 Spotkanie z K. Zanussim. 22.05 Sport.

**Poniedziałek 27.V.** 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 13.25 Mat. 15.40 Nurt. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Echo stad. 17.50 Kur. Biał. 18.05 J. Broda gra na instr. lud. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Reportaż. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: K. Choiński „Kwiaty dla Matki”. 21.20 Szczecin 1945. 22.05 Gra Gold Washboard. 22.25 Dziennik.

**Wtorek 28.V.** 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 7.00 Mat. 9.00 Odyseja — film wł. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) J. pol. Spotkanie z pisarzem. 10.35 Dobry wojak Szwejk — film czech. Odc. I. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Zoolog. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 Sylwetki X Muzy — J. Turek i G. Staniszewska. 17.35 Dla młodzieży. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Lancet i karabin. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobry wojak Szwejk — film czech. Odc. I. 22.05 Sport. 22.10 Świat i Polska. 22.55 Dziennik.

**Środa 29.V.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Zoolog. 8.05 Tajemnica Wyspy Wielkanocnej — film dok. radz. 8.15 Nauczyciel z przedmieścia — film fab. ang. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. Świat dźwięków. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Hist. Z naszej przeszłości. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chem. Cement. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 14.40 Polit. TV. Kurs przygot. Fiz. 15.55 Nurt — Pedagog. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Inf.— Tow.— Prop. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.30 Piłka nożna Polska — Węgry. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Nauczyciel z przedmieścia — film fab. ang. 22.00 Sport. 22.10 Połaniec — godzina zero. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 30.V.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 8.30 Łuk tęczy — film czech. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) J. pol. Goethe — Schiller. 9.30 Al Capone i inni — film fab. ameryk. Odc. II. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) J. pol. J. Tuwim. 13.45 Tech. Rol. Bot. 14.30 Tech. Mech. rol. 15.05 Mat. w szkole: Utrwalenie materiału w ćwiczeniach — cz. I. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Łuk tęczy — film czech. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Morze 2000. 19.00 Test. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni — film. fab. ameryk. Odc. II. 21.45 Sport. 21.55 Czym żyje świat. 22.55 Mała Scena Teatru Rozr.: T. Kwiatkowski „Lekcja miłości”. 22.55 Dziennik.

**Piątek 31.V.** 6.30 Tech. Rol. Bot. 7.00 Mech. rol. 9.00 Marmur — film dok. rum. 9.15 Spotkanie z Połyninem — film fab. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wych. tech. Problemy motoryzacji. 12.00 Dla szkół: (kl. III) Najpierw pomyśl. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Ochr. rośl. 14.40 Politech. Kurs przygot. Mat. 15.55 Nurt — Filozof. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.45 Jeden dzień w OHP. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Rep. film. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Sport. 21.35 Teatr TV na świecie: M. Czernyszewski „Co robić” — cz. I. 22.45 Dziennik. 23.00 Inf.— Tow.— — Prop.

**Sobota 1.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Ochr. rośl. 8.30 Na rabunek — film fab. radz. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Geogr. Turcja. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o czł. Sprawy piętnastolatków (IV). 13.45 Tech. Rol. Wskazówki metod. 14.30 Chem. 15.00 Pr. dnia. 15.05 Pr. I prop. 15.20 Red. Szk. zapowiada. 15.35 Inf. Wyd. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci. 17.50 Lima — rep. film. 18.00 Szare na złote. 18.25 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Na rabunek — film. fab. radz. 21.50 Dziennik. 22.10 Sport. 22.20 Teatr. Rozr.: St. Broszkiewicz „Tryptyk włoski”. 23.30 Czarna magia. — ang. pr. rozr.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 24.V.** 14.40 Pr. dnia. 16.15 Dla dzieci. 17.25 Festiwal TV. 19.30 Pr. Estradowy. 20.45 Sport.

**Sobota 25.V.** 7.00 Pr. dnia. 7.30 Dla dzieci. 12.30 Chór z Omska. 13.45 Film fab. 14.35 Cyrk. 16.15 Filmy anim. 17.55 Teatr miniatur. 19.30 Operetka. 20.50 Sport.

**Niedziela 26.V.** 7.00 Pr. dnia. 9.00 Kiosk muzyczny. 10.30 Białe i czarne. 10.45 Almanach TV. 11.30 Film fab. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub filmowy. 17.15 Film fab. 19.30 Baćka Minaj. Film dokument. 19.40 Pieśni młodości. 20.30 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Nocny cowboj — USA 28—29.V. Godzina szczytu — pol. 30—31.V.

**Czyże** W pustyni i w puszczy I i II s. — pol. 30.V—2.VI.

**Dubicze Cerkiewne** Pechowy zalotnik — radz. Śladami czarnowłosej dziewczyny — jug. 30.V.— —2.VI.

**Kleszczele** Góry, rzeki, ludzie — pol. 28—29.V. Pamiętnik pani Hanki — pol. 30—31.V.

**Michałowo** Dziewczyna inna niż wszystkie — ang. 28—29.V. Trzy kroki w szaleństwo — włos. 30—31.V.

**Mielnik** Biały pokój — bułg. 28—29.V. Liliowa akacja — węg. 30—31.V. Prawo gwałtu — USA 1—2.VI.

**Milejczyce** — Przygody Tomka Sawyera — rum. 28—29.V. Nieszczęścia Alfreda — fran. 30—31.V. Nagrody i odznaczenia — pol. 1—2.VI.

**Narewka** Drogi mężczyzn — czes. Słoń z indyjskiej dżungli — radz. 30.V.—2.VI.

**Narew** Śmiałość — radz. Sześć niedźwiadków i klown Cebulka — czes. 30.V.—2.VI.

**Nurzec** Film o miłości — węg. 28—29.V. Królewna w oślej skórze — fran. 30—31.V. Na niebie i na ziemi — ang. 1—2.VI.

**Orla** Kes — ang. Na rabunek — radz. 30.V— —2.VI.

**Rajsk** Spotkanie ze szpiegiem — pol. Sobótki — pol. 30.V—2.VI.

**Suchowola** Zbrodnia jest zbrodnią — fran. Przerwana pieśń — pol. 30.V—2.VI.

B.Z.Graf. zam. 1517 0-4



 

# НЕЗВЫЧАЙНАЯ СУСТРЭЧА

Беларуская гімназія і ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім на працягу свайго слаўнага трыццацігоддзя выпусцілі каля тысячы абсальвентаў, з якіх сотні пайшлі вучыцца далей і сёння часта займаюць відныя пасады ў гаспадарчым, культурным і палітычным жыцці нашай краіны.

Прыблізна адна дзесятая частка выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя пасля заканчэння вышэйшых навучальных устаноў пастаянна пражывае і працуе, ці вучыцца ў Варшаве.

Як вядома, 28–29 верасня г.г. у Бельску Падляшскім адбудзецца з'езд выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя, прысвечаны 30-годдзю Польскай Народнай Рэспублікі і трыццатай гадавіне існавання школы.

Створан арганізацыйны камітэт, які ўзначаліў мгр Мікалай Врублеўскі. Каб давесці да ведама ўсіх выпускнікоў ліцэя інфармацыю аб з'ездзе, створаны мясцовыя праўленні.

1) У Бельску Падляшскім — старшыня Клаўдзія Сліўка,

2) У Гданьску — старшыня мгр Пётр Верамеюк,

3) у Беластоку — старшыня мгр Васіль Фірсовіч,

4) у Варшаве — старшыня мгр інж. Юры Бусловіч.

6 красавіка г.г. у памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ сустрэлася звыш трыццаці выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя. Мікалай Врублеўскі пазнаёміў прысутных з мэтамі і задачамі арганізацыйнага камітэта.

У рамках камітэта дзейнічаюць чатыры праблемныя камісіі:

1) Навукова-гістарычная — старшыня мгр Вера Леўчук-Валкавыцкая.

2) Культурна-прапагандысцкая — мгр Аляксандр Іванюк.

3) Арганізацыйна-праўная — старшыня мгр Іван Місеюк.

4) Гаспадарча-фінансавая — старшыня Юры Лявоцік.

У склад прэзідыума з'езду запрошаны:

1) Старшыні названых вышэй камісій,

2) Дырэктар Бельскага беларускага ліцэя мгр Аляксей Карпюк,

3) Сакратар партарганізацыі ліцэя мгр Таіса Бялецкая.

4) Старшыня бацькоўскага камітэта ліцэя Васіль Астапюк,

5) Дырэктар падставовай школы мгр Янка Суліма,

6) мгр інж Мікалай Сычэўскі,

7) Мікалай Лапацюк,

8) Скарбнік арганізацыйнага камітэта Людміла Ёдла,

9) Старшыня арганізацыйнага камітэта мгр Мікалай Врублеўскі,

10) намеснік старшыні аргкамітэта Анатоль Навіцкі,

11) Сакратар аргкамітэта мгр Сцяпан Трафімюк.

Пасля таго, як на сустрэчы былі разгледжаны арганізацыйныя справы, пры шклянцы чаю чыталі свае вершы выпускнікі бельскай школы Зося Бусловіч-Стаськевіч і Віктар Швед. Прачытаныя вершы выклікалі вялікае зацікаўленне і жывую дыскусію. Прысутныя прасілі выступаючую ўпершыню ў клубе варшаўскага аддзела БГКТ Зосю Бусловіч-Стаськевіч, якая цяпер пастаянна пражывае ва Урсусе пад Варшавай, каб правяла свой аўтарскі вечар у памяшканні таварыства.

Гэты вечар адбудзецца неўзабаве. Было вырашана запрасіць на сустрэчу ў Варшаву пачынаючых паэтаў, вучняў Бельскага беларускага ліцэя, якія змяшчаюць свае вершы на літстаронцы „Белавежа" ў „Ніве". Выступленне ў Варшаве вучняў Бельскага беларускага ліцэя перад яго выпускнікамі будзе яшчэ адным звяном, спалучаючым ліцэй з яго выпускнікамі на парозе трыццатай гадавіны школы ў слаўнае 30-годдзе Народнай Польшчы.

В. Ш.



*Плошчу перад станцыяй у Кўзніцы запоўнілі жыхары мястэчка, сяляне, чыгуначнікі, школьная моладзь.*

# СВЯТА „ПРАВДЫ"

Сёлетнія Дні культуры, асветы і друку на Сакольшчыне пачала 5 мая ў прыгранічным мястэчку Кузніца вельмі прыемная ўрачыстасць, прысвечаная органу Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, газеце „Правда".

На плошчы перад станцыяй сабраліся жыхары мястэчка, чыгуначнікі, сяляне, школьная моладзь.

Красачны, па-веснавому каляровы карагод прайшоў галоўнай, па-святочнаму прыбранай вуліцай мястэчка. Узначальваў яго калектыў песні і танца гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Надзвычай маляўнічую карціну прадстаўляла калона школьнікаў з Паўлавіч. Відаць было, што настаўніцкі калектыў гэтай школы на чале з дырэктарам **А. Максімюком** і ўся яе моладзь аддала многа сэрца і стараннаў, каб як мага красачней і паўней прадставіць савецкі друк і герояў папулярных савецкіх часопісаў і кніг для дзяцей. На транспарантах віднеліся старанна выкаліграфаваныя загалоўкі: „Правда", „Дружба народов", „Техника молодежи", „Огонёк", „Крестьянка", „Крокодил", „Для маленьких". Крочылі ў адмысловых касцюмах касманаўты, кубанскія казакі, героі рускіх народных казак, аповесцей „Цімур і яго каманда", „Аповесці аб сапраўдным чалавеку", „Незабыўныя дні" і мноства іншых твораў. Зразумела, не абышлося таксама без „Чатырох танкістаў і Шарыка". Прыгожымі былі і калоны школьнікаў з Кузніцы, Навадзелі і Чупрынава.

І хоць на мясцовым стадыёне ішоў розыгрыш папулярных маладзёжных футбольных каманд „Саколікі" з Саколкі і „Памаранкі" з Сэйнаў (перамаглі „Саколікі" 4:1), праходзілі велагонкі школьнікаў (першае месца заваяваў А. Валько, другое — А. Эльяшук, трэцяе — В. Грынявецкі, усе са школы ў Кузніцы), усё ж абшырная зала кузніцкага гміннага дома культуры была біткам набітая некалькімі сотнямі гледачоў, жадаючых паслухаць і паглядзець выступленне калектыву песні і танца беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ. І было што! Багатую дзвюхгадзінную праграму нашых самадзейнікаў склалі беларускія, рускія і польскія народныя і сучасныя песні. Кожны нумар выклікаў гучныя апладысменты, а шэраг твораў трэба было выконваць на біс. Асабліва ж заваявала сэрца слухачоў найменшая артыстка-самадзейніца Аля Гаўрылюк.



*Сакрат Яновіч складаў аўтографы паклоннікам свайго таленту.*

Гэта было першае выступленне нашага беластоцкага калектыву па-за сцэнай у ГП БГКТ, але не будзе перабольшаннем, калі сцвердзім, што яно было надзвычай удалае, на добрым мастацкім узроўні, а гэта прарочыць цікавую і абяцаючую будучыню беластоцкім самадзейнікам.

Да паўночы весела гуляла моладзь і дарослыя на танцавальнай вечарыне, арганізаванай з нагоды свята ў кузніцкім доме культуры.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара




*На свяце „Правды" ў Кузніцы з дакладам выступіў інспектар аддзела асветы і культуры Павятовага ўпраўлення ў Саколцы Ю. Залеўскі.*



*Задавальненню і радасці з удалага выступлення не было канца... І калектыў песні і танца беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ рашыў, вяртаючыся дамоў, увекавечыць гэта на здымку.*




## СНАТВОРНЫ

Службоўцы гміны здрадзілі мне тайну: выявілі яны, што іх (наш) начальнік не дасынае начэй з-за Гапкі. Зрабіўся нервовы і, як кажа доктар Знахарук, апатычны.

І чым Гапка ўскаламуціла ясныя начальніцкія сны? Адданнем. Ці ж не яна славіла яго стваральную працу **натхнёнымі** (падкрэсліваў сам жа) радкамі (*„Выкіпае вада з чайніка, палюбіла я начальніка"*)? Ці ж задрыпанскае прысвяшэнне (якое лічыцца тройчы!), заініцыяванае Гапкай, у канчатковым выніку не запрыходуецца начальніку?

А тут раптам страціў ён сон. Ці западозрыў Гапку ў дрэнных намерах? Чаму? Яна так стараецца. Усюды першая. Прадбачлівая. Ніводнай ініцыятывы не пакіне начальніку. Магчыма, тут прычына начальніцкай бяссонніцы? Бо ініцыятыўнасць знізу, вядома, рэч добрая, але калі ідзе мэтанакіраваным руслом. Стыхіі яўна наш начальнік не любіць. А Гапка ўся — стыхія. Яе трэба разумець. Ды не так, як адзін абскурант: „Званю з Гапкі". Фу!

Абскурантам тлумачу: Гапка — не юрыдычная адзінка. Нельга яе таксама блытаць з гапаком і гаплікам. Ясна? Глядзіце.

І не абражайцеся. Не бярыце прыкладу з санавітага дзядзькі, які, прачытаўшы чарговы рапарт вашага карэспандэнта, пагнаўся з перакладам (наўрад, ці мастацкім) у суд. Абвінавáціў мяне ва ўшчымленні асабістага гонару. Упёрся, што апісаная мною персона — ягоны, знявечаны партрэт. І хоць ты кол на галаве чашы! Шчасце (у няшчасці), падвярнулася вядомая вам патасоўка, калі задрыпанскія хунвейбіны ганьбавалі мяне.

„Ой, добра, добра, што ўлупілі яму", — прамянеў мой зычлівец і... дараваў мае грахі. Дзякуй за вялікадушша. Усё-такі, не мусіў я вохкаць перад высокім судом, просячы паблажкі з увагі на бездакорнае мінулае. Гэта лічыцца.

Дык кажу: не абражайцеся, калі ў нейкім задрыпанцу адкрыеце сябе. Усе мы падобныя і, як казала адна мая знаёмая, усе мы крыху сцервы. Толькі прызнацца ў апошнім не ў кожнага смеласці хапае.

Мы ж выключныя! Чысцюлі! Толькі навокал нас адно падла. І як гэтая Зямля яшчэ круціцца пад цяжарам такога лайдацтва? — здзіўляемся і далей свінячым, надзімаючыся святым абурэннем пры першым сутыкненні з адваротнай рэакцыяй бліжніх.

У кожным з нас дрэмле бэстыя. І справа не ў адмаўленні, а ў тым, каб не будзіць яе. І сродак снатворны ў нас надзейны, праверы продкамі: „Не рабі іншым таго, што табе няміла". Ды хвароба не знікае з вынаходствам лякарства. У яе тэндэнцыі перыядычнага вяртання.

Надзея ў прафілактыцы, як кажа доктар Знахарук. З гэтай мэтай і пішу свае допісы. Значыць, для вашага здароўя.

Хай тады не гневаецца начальнік гміны на свой персанал за незахаванне службовай таямніцы. Ён (персанал) зычыць начальніку добрага здароўя, ясных (перспектыўных) сноў. Гапка таксама.

ДЗЗ

## Ці ўдалося?

У майскія Дні асветы, кніжкі і друку беластоцкі Клуб міжнароднай кніжкі і прэсы арганізаваў першае мерапрыемства з цыклу „Беластаччане ствараюць“. Мэты былі добрыя — арганізатары хацелі пазнаёміць шырэйшага чытача з пісьменнікамі Беластоцкай зямлі. У праграме, апрацаванай Станіславам Мядзеўскім, рэжысёрам беластоцкага тэатра лялек, акцёры драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі мелі чытаць творы Тадэуша Гіцгера, Веслава Казанэцкага, Рышарда Краські, Збігнева Слёнчкі, а таксама пераклады беларускіх твораў Сакрата Яновіча.

Ці мерапрыемства ўдалося? На гэта пытанне цяжка адказаць адназначна. Не пярэчу, што з прыемнасцю слухала я прозу Рышарда Краські ў выкананні акцёра Тамаша Бжэзінскага, мініятуры Сакрата Яновіча ў выкананні Анджэя Кароляка, што цікава было задумана інтэрв'ю з беластоцкім кампазітарам Збігневам Папельскім (яго было ўсё музычнае афармленне); гэта інтэрв'ю выклікала смех слухачоў, калі кампазітар, адказваючы на пытанні, дзе нарадзіўся, вучыўся і г.д., не адрываўся ад паперкі; была гэта тыповая пародыя, эстрадны элемент.

Але ўсё ж, здаецца, мерапрыемству не хапіла сур'ёзнай падрыхтоўкі. Ці мела быць смешна, ці павучальна, дыдактычна? Ці эстрадны спосаб прадстаўлення не пярэчыў камернай атмасферы чытальні МПіК-у? Ці ўрэшце трапнае было музычнае афармленне? Няўжо арганізатары мерапрыемства не ведалі, што песня пра бандурыста, на фоне якой чыталіся творы Яновіча, — гэта вядомая ўкраінская песня, а бандура — тыповы ўкраінскі інструмент? Пры чым жа тут Яновіч?

**Ада Чэчуга**

## ФАЛЬКЛОР

ВЯСНЯНКА
(„РОГУЛЬКА“*)




*Е і ў Добрыводі грудочок, грудочок.*
*Плела Гандюлька віночок, віночок.*
*А і в'ючы заснула, заснула.*
*Прыіхав Володя — нэ чула, нэ чула.*
*— Спі, спі, Гандюля, здорова, здорова —*
*Прывізу віночок з Вільбова, з Вільбова,***
*Прывізу другого з Ходыла, з Ходыла.****
*А як нэ выходіш — дійкам дай, дійкам дай.*
*Сама молодая чыпца дбай, чыпца дбай.*
*— Я вжэ чыпчыка подбала, подбала,*
*В золотую скрыню сховала, сховала.*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

*„Рогулькі“ спявалі калісьці ад Вялікадня да правадной нядзелі (сем дзён) дзяўчаты вечарам на вясковай вуліцы.
**Праўдападобна, „з Львова“.
***Незразумелая назва.




## У нядзельку літ-князёў спатканне

**(Не драма, і не верш, і не апавяданне, а проста фельетон)**

Не зубры та равуць
І не гром та грыміць,
Чаму ж трэскам паўна Белавежа?

. . . . . . . . . . . .

Хоць самаход мой, верце, не Пегас, я той нядзелі, як на крылах, шпарыў і, хоць дарожных, не літаратурных я трымаўся правіл, то чуўся нейкі ўзлёт у пошуме калёс. Каб толькі, братцы, не спазніцца. Бо сёння семінар чарговы „Белавежы“. Збярэцца, пэўна, ледзь не ўвесь Парнас. І трэба ж запісаць, хто быў, што гаварыў, з кім думае сварыцца. Хутчэй ўпярод! Каб толькі крытык-міліцыянер свінні не падлажыў...

Прыбыў... Нейк абышлося... На месцы ўсе свяцілы. Па зале бліск ідзе. Не выпішаш пяром. Чыквін шляхетным профілем да вогулу звярнуўся. Тут белы мрамар шчок і посінь барады. Чым не патына? Адразу кідаецца ў вочы, што ў гісторыю ўлез — мала што малады.

Сакрат Яновіч побач разлажыўся. У падлогу ўпёршы ног стаўбы, хрыбет сагнуў сталёваю дугою, магутны карк крывёй наліўся, рук абцугі, дарма шукаючы апоры, на трыбусе ляглі. Як казачны асілак, ён рушыў бы зямлю. Пакуль аднак шукалі, за што б тут прычапіцца — не выцерпеў. Не маючы прастору, з рыдлёўкай на „Загоны“ падзедаўску пайшоў.

А Барскі дзе? Здалёк уладкаваўся. Не навіна яму ў тузах знайсціся. Не год, не два ён асвятляе дарогу маладым — высочазным чалом. Паэзіі святар узняў угору вочы. Вусны самыя складаліся мальбою. У эфір праніклі мары, мяўкаюць пяшчотна, як коцікі, ласкава згібаюцца ў верш. За імі не прасочыш, як карагод дзявочы, вірують арэолам, не хочуць на папер.

Геніюш са Шведам на скраі прыселі. Зайздросна нябогам — не бяруць у неба. Задумаўся Віктар, галаву панурыў. Можа ў гэтым праўда? Можа так і трэба?

З боку птушаняткі ціхенька прыселі — Гаўрылюк Нінуля, Баравік Ірына. Дзюбачкі, як цацы, пёрычачкі пухам. Лыпнуў Юрка вокам і успрануў духам. Языком, бы брытвай, рэзнуў таго-сёга.

Маючы дзве музы амаль пад рукою, пашто здзіраць боты пад якойсь гарою? Пад ляжачы камень вада не пльецца, да сумнага хлопца дзеўка не ўсміхнецца, не чакай ні хвілі, лаві шчасце смела, спераду хапайся, ззаду аблысела.

Наўкруга тым часам гутарка ўскіпае. Адгадай, будзь добры, хто тут слова мае. Бо ўсе гавораць.

Пра літаратуру, чытальнікаў прозы, крытыкаў, хаўтуру, пра саміх паэтаў. Што такое геній, ці ён ёсць у Шведа? Хто ім і за колькі людзей надзяляе.

— Няма што трызвоніць пра тое, што маем, — заявіў рашуча стваральнік санетаў. — Тут большасць прысутных у зале паэтаў — прафесіяналы ў літаратуры. І лічу, што верш, апавяданне, у вольнай рыфме скрытае каханне, соль, перац творчасці, сэнс дзеі — не ўцяміш сэрцам, галавою. Гарбом браць трэба і універсітэты абавязкова мусяць кончыць усе, каб разумець літаратурнае жыццё.

Тут далікатна Геніуш ўмяшаўся. Не, не — сказаць, што сябра брэша, ён не смее. Ён нават яго погляд цэніць, разумее, што ў галаву не лезе, шмат працей узяць задам. Каменем прысесці, портак здзерці пару, вывучыць ўсе азы, паздаваць зачоты. Мест арліных крылаў дыпломчык расправіць. Тут усё залежыць, хто што вышэй ставіць.

Вось мая бабуля без ніякай школы бліны выпякала ўсім гасцям на радасць. Паланілі пахам, чаравалі формай, усе елі са смакам, усе жадалі болей. А часамі повар з вядомым дыпломам як падсуне юшку — кобель адвярнецца, шэрсць тырчмя паставіць, з голаду завые, а есці не стане.

Бо што б хто не пісаў, што не задумаў, ці са старонак льецца смех ці плач, то плакаць ці смяяцца ён сам тут не будзе. Што варта — зможа ацаніць толькі чытач.

Тут Чыквін кашлянуў, баднуў Юрку узрокам, аж той прысеў, замоўк, ну хоць ты ў студню скач, нават „Святую“.

Было, сябры, усяго. І выбары былі таксама. Прайшоў Баена Юрка з маладых, двое старэйшых узяўшы да падмогі.

Вось толькі ніхто не заікнуўся, каб навенькае што, ды з толкам напісаў.

**Ларс**

Пачатак на стар. 1




дой — думкі думаюцца, што б яшчэ зрабіць. Запланавалі вось на канікулы рамонт святліцы, паможа ўпраўленне гміны. Паставяць плот і пасадзяць кветкі. На 22 ліпеня падрыхтуюць сцэнку. Выступяць у сваёй і суседніх вёсках. У планах — апрацаваць яшчэ тры п'есы. Але гэта ўжо будучае піражкоўскага драмгуртка. Цяпер лічыцца тое, што маладыя з Піражкоў без нічыёй дапамогі аднавілі ў вёсцы культурную працу і добра выступілі ў гадавым аглядзе беларускіх драмгурткоў БГКТ.

**А. Карпюк**
**фота аўтара**



*Зборная сцэна.*



*Сцэна з „Мікітавага лапця“.*



*Мікіта — Пётр Алекша.*



*Віталій Алекша („Хлопец“ з п'есы) з кіраўніком святліцы ў Піражках Расціславам Алекшам.*

 




### ХТО Я?

Я хто?
Яшчэ адна кропля
існавання
ў вялікім шуме
мар жыцця шалёных,
тых вод бурлівых і салёных.
Мне так далёка...
Рукі не дасталі
хаця б пылінкі шчасця.
Яе вятры няслі...
І зноў камусьці ўпала
у радасць прагных рук
у бляск вачэй.

**Яўген Семянюк**

### *ХАЦЕЎ БЫ ПТУШКАЙ БЫЦЬ*

*Мне сумна. Чаму?*
*Я сам не знаю.*
*Хацеў бы птушкай быць,*
*Ляцець, ляцець без мэты ў даль,*
*Усё аглядаць і пазнаваць*
*І на Зямлю зусім не сесці.*
*Ці то магчыма чалавеку,*
*Каторы соллю Зямлі ёсць?*
*Чалавек радзіўся для таго,*
*Каб шчасце мог даваць другім.*
*А птушкай быць? То добра,*
*Ды для птушак.*
*А я хацеў бы птушкай быць,*
*Свабоднай птушкай, голубам.*
*Чаму? Не знаю!*

**Н. Н.**
Бельскі беларускі ліцэй

### НЯМА БЯДЫ

Такія дзіўныя у нас цяпер гады —
Ні то дарослы, ні дзіцячы свет...
Але ва ўсім няма ў нас бяды,
Цвіце ў вачах усё, як ружы цвет.

Няма бяды... А можа мы не чуем,
Не знаем, што такое ёсць на свеце?
Не плачам мы і не гаруем...
Няма бяды...

Не хочам, каб яна прыйшла,
Мы, дарослыя... дзеці.

**Міра Лукша**

## Ці ведаеце, што...

...у мінулагоднім конкурсе на званне гаспадарнай і культурнай вёскі з пасобных паветаў першынство заваявалі: Новае Александрова з Беластоцкага павету, Любешча з Бельскага павету, Дамураты з Дуброўскага павету, Махнатае з Гайнаўскага павету, Пшэслаўка з Сакольскага павету. (ця)

## Этнаграфічная сакенца



*Вёска Пагрprovíбы Гайнаўскага павету.* *Фота В. Рудчыка.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. і В. заключылі ўмову, у якой А. абавязаўся прадаць В. дзялянку сенажаці, а В. уплаціў 5.000 зл. задатку. Умова прадугледжвала, што калі А. адступіць ад умовы, зверне 10.000 зл., а калі В. адступіць ад умовы, то траціць свой задатак. Умову спісаў солтыс. Гэта было ў 1972 годзе. У 1973 годзе А. сенажаць адабраў, а звярнуў В. 5.000 зл. Ці В. можа дамагацца, каб А. звярнуў яму яшчэ 5.000 зл. згодна з умовай?

АДКАЗ. Паколькі перанесці на іншага права ўласнасці нерухомай маёмасці можна толькі ў форме натарыяльнага акту, умова, заключаная ў іншай форме, няважная, а гэта значыць, што ўсе яе пастановы, у тым ліку справа задатку, не маюць значэння. Паколькі В. атрымаў назад уплачаныя 5.000 злотых, ён не можа дамагацца заплаты далейшых 5.000 злотых няважнай умовы.

Без натарыяльнай формы можа быць заключана ўмова, у якой уласнік нерухомай маёмасці абавязваецца ў будучыні перанесці ўласнасць на набыўцу. Гэтакая ўмова важная толькі ў тым выпадку, калі ў ёй, апрача асноўнага зместу ўмовы, якая мае быць у будучыні заключана, пададзен тэрмін, у якім яна мае быць заключана. У гэткім выпадку можна было б патрабаваць ад прадаўца звароту падвойнага задатку.




**Дарагое „Сэрцайка“!**

З Нінай пазнаёміўся я ў калядныя святы. Паехаў з сябрамі тады ў суседнюю вёску на забаву. Сабралося тут многа моладзі. Дзяўчаты, як кветкі, прыгожыя, але адразу, калі ўвайшоў я ў святліцу, кінулася мне ў вочы адна, асабліва прыгожая, чарнавалосая. Гэта і была Ніна. Цэлы вечар пад гукі аркестра мы з ёю гулялі. Калі забава закончылася, правёў я яе дамоў. З таго часу Ніна зачаравала маё сэрца. Я не мог думаць аб нічым іншым, а толькі аб ёй. Кожную нядзелю ў яе бываў. Два месяцы таму назад я прыехаў у горад. Тут атрымаў працу, бо я па прафесіі тэхнік. З Нінай цяпер мы толькі перапісваемся. Пазнаёміўся цяпер з Галяй. Яна таксама прыгожая. Але Ніна мне больш падабаецца. Толькі Ніна далёка, а Галя блізка. Прыйшоўшы з работы, я яе часта наведваю. І бачу, што яна штораз больш мне падабаецца. Але вось нядаўна атрымаў я ад Ніны ліст, у якім піша, што яна цяжарная. Ужо больш трох месяцаў. Аб гэтым першаму мне сказала. Бацькі таксама яшчэ нічога не ведаюць. Я паехаў да яе. Пры спатканні Ніна вяла сябе зусім інакш, як заўсёды. Гэтая вясёлая, шчабятлівая дзяўчына, цяпер расплакалася, ледзь я яе ўцешыў. Але з выгляду не змянілася, нічога па ёй не відаць, што цяжарная. Сказала, што калі не ажанюся з ёю, дык аліменты плаціць буду. Я сказаў, што падумаю, бо гэта справа важная, і дам адказ. Калі я ад'ехаў, у мяне насунулася думка, ці яна сапраўды цяжарная, можа толькі хоча, каб хутчэй выйсці замуж. А можа і не маё дзіця? Праўда, не чуў, каб хто іншы да яе хадзіў, ды й заўсёды пісала, што толькі мяне кахае. Не ведаю, што рабіць, парай, „Сэрцайка“!

**Янка з Б.**

Янка! Выйсце адно. Жаніцца як найхутчэй! Твае сумненні адносна Ніны беспадстаўныя. А насунуліся яны толькі таму, што ты ўжо з Галяй звязаўся. Дзвюма заняўся, таму і вагаешся. А пакуль яшчэ, як пішаш, „нічога не відаць“, дык справу мігам афармляй. Ніну кахаеш, яна цябе таксама, дык, сказаўшы аб усім бацькам, неадкладна заяву аб шлюбе падавай!

**„Сэрцайка“**

## Куток практычных ведаў




### СУКЕНКІ

Модная сукенка зверху павінна быць дапасаваная, а ўнізе расшыраная. Сукенкі гэтыя найчасцей бываюць адразныя ў таліі. Талію падкрэсліваюць поясам, або стэбнаваннем.

Спартыўныя сукенкі маюць меншыя або большыя кішэні, якія нашываюць ў розных месцах, а таксама спартыўныя каўнеры. Універсальныя сукенкі шыюць аднак найчасцей без кішэняў. Носяць іх з бусамі, хустачкамі, белымі прышпільванымі каўнерыкамі.

Наймаднейшыя сукенкі — класічныя шміз'еркі, якія носім ужо на працягу многіх год, нязначна змяняючы толькі некаторыя элементы. Шміз'ерка ў гэтым годзе павінна быць шырокая ўнізе.

Практычная жанчына, купляючы ці шыючы новую сукенку, выбірае фасон па магчымасці просты, але з добрага матэрыялу, каб сукенкі хапіла надоўга і фасон не надакучыў. Вырашаючы пашыць сукенку, варта задумацца над матэрыялам, які б не мяўся і не вымагаў прасавання.

На здымку вы бачыце сукенку, фасон якой вельмі просты, а выглядае элегантна. Варта звярнуць толькі ўвагу на дадаткі.

Дадаткі неабходна прымяняць вельмі ашчадна. Калі, напрыклад, апранаем бусы, то не варта прышпіляць ужо кліпсаў. Калі ўжо, напрыклад, пад шыяй завяжам хустачку, то бусы і кліпсы пакінем на наступны раз. Такія прынцыпы добрага густу, аб якіх нельга ніколі забывацца.

**Сяброўка**






У гэты момант Яфімцаў апрытомнеў. Ён яшчэ не мог зварухнуцца і нават расплюшчыць вочы, але размову, хоць і няясна, пачуў.

— Га-а, Стаськін кавалер, — загучаў грубы насмешлівы голас. — Яна яго навяла на нас?

— Ды не, пан паручнік, — адказаў нехта няўпэўнена і ліслівa: — Мы ад самага балота за ім назіралі. Ён хаваўся ад Стасі, і яна яго не бачыла. Сачыў, напэўна.

— Адзін сачыў? — хмыкнуў паручнік. — Добра, праверу. Дзе Стаська? У хаце? Цягніце яго туды. Нам скора на справу ісці.

Яфімцава некуды паваляклі. Ногі яго цягнуліся па траве, галава бяссільна ападала на грудзі. Яму рабілася млосна. Нарэшце яго кінулі на халодныя дошкі падлогі, лінулі ў твар ледзяной вады. Яфімцаў расплюшчыў вочы і проста перад сабой убачыў бледны спалоханы твар Стасі.

— Ведаеш яго, сястрычка? — спытаў яе высокі змрочны здаравяка ў афіцэрскім мундзіры. — Ну, чаго маўчыш? Гэта ж твой каханы.

Дзяўчына моўчкі паглядзела на Яфімцава, быццам яго выгляд паралізаваў яе.

— Ну, бачу, пазнаеш, — ухмыльнуўся здаравяка. — А цяпер скажы: ты яго прывяла сюды?

— Я ішла адна, Веслаў, — ціха адказала Стася.

— А ён... як праз багну прабраўся?

— Не ведаю, я яго не бачыла.

— Не чапайце яе, — прахрыпеў Яфімцаў. — Яна ні пры чым. Яна не ведала, што я следам за ёй у вашу банду іду.

Яфімцаў яшчэ раней зразумеў, што Стася звязана з бандытамі, і не варта было б выгараджваць яе, аднак ён бачыў яе маленькую бездапаможную постаць, яе ўмольны позірк, які прасіў яго даравацъ ёй, і ён не вытрымаў.

„Запалохалі дзяўчыну, задурылі, — падумаў ён, — прападзе ні за што“.

Паручнік штурхануў яго ботам у бок.

— Цябе не пытаюць, памаўчы.

— Пляваць я на цябе хацеў, сволач, — бясстрашна адказаў Яфімцаў.

Паручнік не адразу знайшоў адказ і з лютым шыпеннем паабяцаў:

— Я з табой яшчэ пагутару... Замкнуць яго! Янак, пад строгую варту, не зводзіць вачэй. Мы хутка вернемся. А ты, Стася, пойдзеш з намі.

Адыходзячы, Стася апошні раз кінула на Яфімцава ўсё той жа ўмольны позірк, і ён усміхнуўся ёй, стараючыся, каб усмешка была натуральнай і падбадзёрыла яе.

* ✲ *

Калі салдаты і байцы атрада Баляслава Касцянецкага, разгарнуўшыся ланцугом, зніклі ў лесе, Казімір Вышаслаўскі дастаў з тайніка за печчу пісталет і важкаваты скураны мяшочак. Пісталет сунуў у кішэню, а мяшочак — за пазуху. Ён вырашыў уцякаць. Усё гінула. Добра яшчэ, калі Уладыслаў са сваімі людзьмі паспее схавацца, а калі не паспее? Між іншым, усё роўна рана ці позна Уладыслаў будзе злоўлены, а тады не памілуюць і яго, Казіміра. Баляслаў Касцянецкі ясна сказаў яму перад адыходам у лес:

— Вярнуся, мы пагаворым з табой, пан Казімір. Ты мне за бацьку адкажаш спаўна. Шкурай адкажаш.

Вышаслаўскі выйшаў на ганак, закінуў за плечы салдацкі мяшок, насунуў нізка на вочы шапку і пакіраваў праз агароды да лесу. На ўзлеску стаіўся ў кустах, доўга пазіраў на сваю хату, занятую заставай. Шкада было пакідаць уласнае дабро, ваўком хацелася выць ад крыўды і злосці. Затое зусім не было шкада чужога дабра. Хата, у якой часова жыў Вышаслаўскі і якую ён толькі што пакінуў, раптам выплюхнула з акон языкі полымя.

Счакаўшы і ўбачыўшы, як па вёсцы замітусіліся людзі, Вышаслаўскі змрочна ўхмыльнуўся і падаўся ў гушчар.

* ✲ *

Яфімцава кінулі ў нейкую затхлую каморку без вокан, у якой пахла гніллю. Ён ляжаў на падлозе і пазіраў у цемру.

„Зноў зрабіў глупства, — у бяссільнай злосці думаў салдат, — сачыў за Стасяй, а сам не азіраўся, сунуўся як мядзведзь. Вось і прападай цяпер, дурная башка“.

Вочы прызвычаіліся да цемры, і ён разгледзеў сваю пастку, заваленую нейкім рыззём і хламам. Было тут душна і пыльна. Праз шчыліну падлогі сачыліся святло і халоднае паветра. Яфімцаў раскідаў хлам і прыпаў гарачым тварам да шчылін у падлозе. Стала крыху лягчэй.

Праз больш шырокія шчыліны відаць было падмосце, святло і паветра пранікалі туды праз маленькія дзверцы ў



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Цяжкая самотнасць старой жанчыны

У вёсцы Ліпіны, Гайнаўскага павету, жыве самотная, старая жанчына, 75 год, Ольга Рэзанка. У яе такая сабе хатка на курынай ножцы, дзе няма печкі і зімой такі самы мароз, як на дворы. Па ваду ходзіць старая да суседа (больш. 200 м), дзе, зрэшты, неахвотна яе бачаць. Некалькі год таму назад, калі жанчына была яшчэ малодшая, грамадская апека давала ёй фінансавую дапамогу, але потым прыйшлі да вываду, што адна асоба ў гміне пражыве без дапамогі. I перасталі даваць.

Усё было сяк-так, пакуль старая была здаровая. Яна хадзіла і прасіла ў людзей і неяк так жыла. Ды прыйшоў час, аслабла так, што ўжо не можа пайсці па вёсцы, не парадзіць сама з сабой, не можа нічога зрабіць. Здаралася так, што яна па некалькі дзён ляжала ў халоднай хаце без хлеба і вады.

У Ліпінах ёсць грамадскі апякун, які лічыць аднак, што Ольга Рэзанка не яго падапечная. Ён ніколі да яе не заходзіць, а калі яна да яго прыйшла прасіць дапамогу і параду, выгнаў з хаты.

Пра жыццё і лёс старой жанчыны ведае гміна і аддзел здароўя і апекі Павятовага ўпраўлення ў Гайнаўцы. Ды яны нелагічна адказваюць на просьбы жанчыны, што заапякуюцца ёй праз тры гады (пастанова ўпраўлення гміны). Жывучы ў такіх умовах, як цяпер, старая і года не пражыве.

Гэтай жанчыне патрэбна пастаянная апека, каб падрыхтаваць дровы, напаліць у печы, хоць раз у дзень зварыць нейкую страву, прыбраць у хаце і купіць што трэба. Такую апеку мае ў Гайнаўцы многа старых людзей, у якіх ёсць сем'і. Але Рэзанка адна, як палец, і наша ўлада не можа дапусціць, каб стары чалавек жыў у такіх, як яна, умовах.

**Раса**

## Любіце лес!

Дырэктар упраўлення дзяржаўных лясоў у Беластоку прыслаў нам пісьмо-заклік, якое публікуем.

*Спрыяльная атмасферычная сітуацыя цяпер сухое, цёплае і ветранае надвор'е, растучая колькасць пажараў пагражаюць нашым лясам. Гэта вымагае ад нас пастаяннай апекі і асцярожнасці, а таксама дапамогі і супрацоўніцтва з ляснымі працаўнікамі, з пажарнымі камандамі.*

*Кірую заклік да ўсіх прадпрыемстваў, арганізацый і ўсіх, хто бывае ў лесе, каб як найбольш прытрымліваліся супрацьпажарных правіл у лесе. Прашу — не хадзіце ў лясы, дзе асабліва лёгка ўспыхваюць пажары. Калі сустрэнецеся дзе ў лесе з агнём, садзейнічайце ў яго ліквідацыі.*

*Шануйце і беражыце лес ад пажару!*

*Шануйце наша найпрыгажэйшае супольнае дабро!*

**Дырэктар**
**мгр інж. Раман Філіповіч**

---

прызбе. Каля гэтых дзверцаў час ад часу паказваліся боты вартавога, які, напэўна, пахаджваў вакол хаты.

„Каб удалося пралезці ў падмосце, — раптам падумаў Яфімцаў, — можна было б і ўцячы. Але для гэтага трэба сарваць дошкі, а чым?"

Стрымліваючы хваляванне і шалёны стук сэрца, Яфімцаў стаў на калені і пачаў шнырыць па каморцы, шукаючы якой-небудзь прылады. Адно рыззё, бляшанкі, чарапкі, — і больш нічога. I раптам нешта бразнула металічнае. Яфімцаў намацаў доўгі прэнт ад ярма і, забыўшыся пра боль, пачаў спрабаваць падважыць хоць адну дошку ў падлозе. Ён спрабаваў адну, другую, але заржавелыя цвікі моцна іх трымалі. Стаміўшыся, ён хвіліну-другую адпачываў. Але час не чакаў, і Яфімцаў зноў і зноў шукаў слабае месца. Нарэшце ў адным куце, дзе падлога трохі струхлела, адну маснічыну ён сарваў з цвіка. Яфімцаў праціснуўся ў дзірку і заціх у падмосці. Вартавога паблізу не было. Яфімцаў стаіўся ля дзверцаў і прыкідваў, ці яму дачакацца, калі пройдзе вартавы міма і напасці на яго, ці лепей не чакаць, а паспрабаваць, пакуль яго няма, дабегчы да рэчкі, пераплыць на той бераг і знікнуць у лесе. Падумаўшы крыху, ён адхіліў другі варыянт. Не паспее. Ды і плыць у адзенні ў ледзяной вадзе не было сэнсу. Заставалася адно — чакаць вартавога і...

**(Працяг будзе)**

## На лепшае

Камендант пастарунку МО ў Шудзялаве — Здзіслаў Радух прадставіў на сходзе гміннага камітэта ПАРП справаздачу аб парадку і бяспецы ў гміне ў першым квартале 1974 г. У Шудзялаўскай гміне не было за гэты час ніякіх выпадкаў, ані злачынстваў. Некалькі асоб толькі былі пакараны мандатамі за нарушэнне дарожных і супрацьпажарных правіл. Не было самагоншчыкаў (у мінулыя гады міліцыя вылаўлівала самагоншчыкаў у гміне). Не было пажару, хоць два разы загараўся прыватны лес. Як бачым, з парадкамі і бяспекай у Шудзялаўскай гміне ў гэтым годзе лепш.

**Т. К.**

## Грамадская праца

Жыхары вёскі Давідавічы рашылі супольна направіць дарогу, якая ідзе ў напрамку Заблудава. У апошнюю нядзелю красавіка ўсе гаспадары вёскі выйшлі з лапатамі на дарогу. Далучыліся сельгасгурткоўскія машыны з суседніх Астровак. Яны прайшлі некалькі разоў глебагрызалкамі і змякчылі гліняны грунт.

Чатыры гадзіны супольнай працы, і дарога змянілася на лепшае, на карысць не толькі жыхарам Давідавічаў, але і ўсіх, хто сюдою будзе ездзіць і хадзіць.

У Давідавічах няма гаспадара, які б адмовіўся ад грамадскай працы.

**Коля Міхалюк**
**Давідавічы**

---

**БЕЛАВЕЖА ЦІКАВЫХ ФАКТАЎ**

## Пенсіянераў паважаюць

Не забывае пра сваіх былых працаўнікоў праўленне ГС ў Белавежы. Штогод пенсіянеры ездзяць на экскурсіі. Часта атрымліваюць бясплатна білеты ў кіно, тэатр, на эстрадныя канцэрты. Нядаўна адбылася сустрэча, на якую прыйшло 12 пенсіянераў. Усе яны атрымалі ўзнагароды — па 300 зл. кожны. Падзяку за добрую працу ў мінулым і гарачыя пажаданні добрага здароўя перадалі старшыня ГС-у Аляксей Семянюк і старшыня надзорчай рады Мікалай Сядунь. Пенсіянеры ахвотна падтрымліваюць кантакт з былым месцам працы. Часта даюць парады, прымаюць удзел ў грамадскай працы. Варта было б тут назваць Аляксандра Вашкевіча, Цімафея Бушко, Ігната Маркевіча, Фёдара Падлапічыка, Марыю Ліцкевіч, Аляксея Доўбыша, Ольгу Мілько і інш.

## Новая бібліяграфія

Ад'юнкт Белавежскага нацыянальнага парка, др інж. Чэслаў Аколуў закончыў работу над новым томам „Белавежскай бібліяграфіі". Гэта праца змяшчае спісак публікацый пра Белавежскую пушчу і ўвогуле пра Белавежу, якія паявіліся ў апошні час (ад пачатку 1967 г.). Новы том бібліяграфіі знаходзіцца ўжо ў друкарні.

Першы спісак белавежскай літаратуры быў надрукаваны ў 1948 г. і меў 478 пазіцый. Яго аўтарам быў Я. Е. Карпінскі. Другі спісак з 2101 пазіцыямі, састаўлены Я. Е. Карпінскім і Ч. Аколувым, выйшаў у 1969 г.

**Пётр Байко**

## Што з „Васілёчкамі"?

У песенным конкурсе БГКТ за 1972 год прыняў удзел калектыў з Бельска Падляшскага пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. Бельскі актэт сваім майстэрствам захапіў гледачоў, а песнямі „Паляцелі ў вырай жураўлі" і „Біла жонка мужыка" заваяваў I месца і атрымаў узнагароду ГП БГКТ. Яшчэ так нядаўна калектыў „Васілёчкі" з Бельска быў найлепшым у ваяводстве.

А цяпер калектыў перастаў дзейнічаць. Ці ж „Васілёчкі" назаўсёды перасталі цвісці?

**Васіль Асеннік**

## Найлепшыя пошты Гайнаўшчыны

У паштова-тэлекамунікацыйным упраўленні ў Гайнаўцы адбыўся падлік спаборніцтва працы паміж паасобнымі паштовымі ўстановамі Гайнаўшчыны за 1973 год.

I месца заваяваў калектыў пошты Чыжы, які працуе пад кіраўніцтвам Марыі Грамадскай. Два II месцы былі прызнаны пошце ў Белавежы, дзе начальнікам з'яўляецца Аляксандра Андросюк, і пошце ў Старым Корніне, кіраванай Кірылам Кудэрскім. III месца заняў калектыў пошты Дубіны з наймалодшым нашым начальнікам Надзяй Юрчук на чале.

Жадаем пераможцам яшчэ лепшых вынікаў у 1974 г.

**Раса**

## Клуб у Камені

Клуб „Рух" у Камені Гайнаўскага павету існуе толькі другі год, але ўжо мае дасягненні. Клуб знаходзіцца пасярэдзіне вёскі, таму прыходзіць сюды многа старэйшых жыхароў, бо моладзі ў вёсцы нямнога. Тут адбываюцца гутаркі па сельскай гаспадарцы. Жанчын вучаць варыць, пячы, весці хатнюю гаспадарку. Адбываюцца сустрэчы з дзеячамі культуры, прадстаўнікамі розных устаноў, аграномамі. Клубу многа памагае сельскагаспадарчы інструктар гміннага ўпраўлення ў Чыжах Мікалай Паплаўскі і грамадскі старшыня рады клуба Іван Тэлянцеюк. Гаспадаром клуба з'яўляецца Вера Сегень.

(мт)

## Сход ветэранаў

На пасёлку Тысячагоддзя ў Беластоку адбыўся сход збавідоўцаў, прысвечаны святу працоўных і гадавіне польска-савецкага дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе. Даклад прачытаў сакратар гуртка ЗБоВіД маёр Анатоль Шутко.

10 збавідоўцаў атрымалі медалі, між іншым, Пётр Лянгевіч атрымаў медаль „За Одру, Нысу і Балтыку".

У мастацкай частцы выступіў аматарскі маладзёжны калектыў з пачатковай школы № 6 пад кіраўніцтвам Лены Кірмуць.

(вп)

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Пажары знішчаюць дабро. Па розных прычынах яны ўспыхваюць. У вёсцы Вейкі ў Беластоцкім павеце спалілася нядаўна гумно з сельскагаспадарчымі прыладамі, страты на 40 тыс. злотых.

А ў Рыбалах Беластоцкага павету згарэў гектар маладога лесу, страта 10 тыс. зл. Лес быў уласнасцю надлясніцтва ў Бельску.

## СЁСТРЫ ПЦК

Група выпускніц-сясцёр пагатоўя ПЦК у Гайнаўцы ў 1974 годзе. Быў гэта ўжо трэці такі курс у горадзе Гайнаўка. Закончыла яго 22 асобы. У ваяводстве гэта быў ужо саракавы курс. Разам курсы закончыла 903 асобы.

**Дубічы Царкоўныя**

## Прыяцель кніжак

Анастасія Рута з Дубіч Царкоўных — адзін з найлепшых чытачоў мясцовай бібліятэкі. Без кніжак яна жыць не можа, хоць гэта і старэйшая ўжо жанчына, ёй ужо амаль 70 гадоў. Не сорам аднак быў бы малодшым браць прыклад з А. Руты. Амаль усе кніжкі з дубіцкай бібліятэкі яна прачытала. Найбольш любіць беларускую і рускую літаратуру. Гэта адукаваная жанчына. Вучылася ў гімназіі калісьці. Настаўнічала. Працавала ў колішняй грамадскай радзе. Апошнія гады працавала бухгалтарам у дубіцкім сельгасгуртку. Цяпер на пенсіі. Але з кніжкамі не расстаецца. Нават па начах чытае. Мае і ўласную багатую бібліятэку.

### МОСЦІК

На польнай дарозе, якая ідзе з Тапаркоў у Рудуты, ёсць мосцік, які невядома калі абламаўся (адна цэмбравіна). А па гэтай жа дарозе праязджаюць сяляне. Варта, каб гмінныя дарожныя ўлады ў Орлі зацікавіліся гэтым мосцікам.

**М. Панфілюк**

## Весткі з Махнатага

Махнатае — вёска вялікая і прыгожая. У ёй вельмі многа моладзі, якая вучыцца і працуе. Вольныя хвіліны моладзь праводзіць у тутэйшым клубе селяніна, які існуе ад 1970 года. Апекуном і гаспадаром клуба з'яўляецца маладая дзяўчына Галіна Кот. Яна заўсёды вельмі прыемна і з усмешкай абслугоўвае людзей, а таксама сочыць за парадкам у клубе і на панадворку. Калі б не зайшоў у клуб, аж міла паглядзець — цішыня і парадак, многа газет, фотагазет, плакатаў і дыпломаў, якія клуб селяніна атрымаў у 1973 годзе за першае месца ў ваяводстве ў конкурсе на найлепшы вясковы клуб. Вялікай узнагародай былі таксама 7 тыс. зл., за якія цяпер моладзь хоча купіць некаторыя музычныя інструменты, каб арганізаваць музычны гурток. У сувязі з гэтым у клубе часта адбываюцца сходы гурткоў Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі і БГКТ, а таксама гуртка сельскіх гаспадынь. Адбываюцца таксама сустрэчы з цікавымі людзьмі. У апошні час вельмі цікавую і багатую вечарыну ў клубе арганізавалі жанчыны ў сувязі са сваім святам.

**А. Білеўская,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ВЁСКА ЛЯШЧЫНЫ І ІНШЫЯ

**Адказвае:**

**Urząd Gminy w Czyżach, pow. Hajnówka.**

W odpowiedzi na Waszą notatkę, dotyczącą ulicy w Leszczynach, wyjaśniamy jak niżej:

— wieś Leszczyny jest włączona do sołectwa Hukowicze położonego w sąsiedztwie. Sołtysem w Hukowiczach jest Nikołajuk Luba. Jak wynika z podziału administracyjnego, nie ma podstaw do tworzenia odrębnego sołectwa w Leszczynach, gdyż jest to wieś mała i mało produktywna, a więc tworzenie oddzielnego sołectwa byłoby nieuzasadnione.

— budowa ulicy w Leszczynach w bieżącej 5-latce nie jest przewidziana, może być ujęta do planu w przyszłej 5-latce pod warunkiem włożenia 50% wartości budowy ulicy czynem mieszkańców tejże wsi.

Wyjaśniamy, że gmina Czyże pod względem budownictwa dróg ma wiele do zrobienia. Teren jest ciężki do budowy z powodu zwięzłych gruntów gliniastych. Obecnie w pierwszej kolejności jest problem połączenia dróg Zbucz — Morze, połączenie wsi Morze z siedzibą gminy Osówka — Kojły. Czyże — Rakowicze, Klejniki — Hukowicze. Te wsie są towarowe w produkcji rolnej, a drogi tu całkowicie nieprzejezdne. Potrzeby są duże, natomiast środków finansowych otrzymujemy rocznie na 1 km.

Na budowę w/w dróg są już opracowane dokumentacje.

**Naczelnik Gminy**
**Jerzy Lewczuk**

### ЯК БУДЗЕ НАЗЫВАЦЦА САКОЛЬСКІ „СПОМАШ"?

**Адказвае:**

**Naczelnik Miasta w Sokółce**

W odpowiedzi na Wasze pismo z dnia 10 kwietnia 1974 roku uprzejmie informuję, że nadanie imienia zakładowi następuje na wniosek załogi, po zatwierdzeniu resortowego ministra. Propozycja, by nowo budowany „Spomasz" w Sokółce nazwać imieniem Eugeniusza Naliwajki zostanie wzięta pod uwagę i zasygnalizowana załodze w późniejszym okresie, po pełnym rozruchu zakładu.

**z up. Naczelnika Miasta**
**Kierownik Referatu**
**podpis nieczytelny**

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch". Indeks 36911.

# МУЖЧЫНСКІ ХАРАКТАР

Зіначка цярпліва чакала, пакуль я круціў у руках меню. Зіначка была вельмі прыгожая, і я не мог адарваць ад яе позірку.

— Заказвайце, — падагнала яна.

Я маўчаў.

— Ох, і цяжка, напэўна, вашай жонцы, — уздыхнула яна.

— Я нежанаты.

— Усе вы нежанатыя, — летуценна сказала яна.

Я маўчаў.

— Ну што ж вы? Не карову купляеце.

— Як „не карову"?

— Карову купляюць — тыдзень думаюць.

— Я не думаю.

— Яно і відаць.

Я павярнуўся і пайшоў.

— Вы што, пакрыўдзіліся? — крыкнула Зіначка.

Я не адказаў. Я дайшоў да вакзала, сеў на цягнік, даехаў да найбліжэйшай вёскі і там, не таргуючыся, купіў першую ж прапанаваную мне карову.

Карова была высокая і рыжая. Я вёў яе два дні. На трэці дзень мы пайшлі да Зіначкінай сталовай. Я прывязаў карову да слупа і ўвайшоў у сярэдзіну.

— Вось, — сказаў я Зіначцы, — купіў карову.

— Якую карову? — здзівілася яна.

— Гэтакую рыжую. Мілкай завуць, — растлумачыў я. — Адразу купіў, не таргаваўся.

— Навошта яна вам?

— Не ведаю. Вы гаворыце — я многа раздумваю. А я на самай справе рашучы...

— Андрэй Пятровіч, — спалохана сказала Зіначка дырэктару сталовай, — ён карову купіў.

— Цудоўна, — сказаў Андрэй Пятровіч. — Гаспадарлівы малады чалавек. Будзе саваё малако, масла...

— Куды вы яе дзенеце? — жахнулася Зіначка.

— Раніцай буду выводзіць на прагулку ў сквэрыку, — намагаўся я захоўваць спакой.

— Сабак жа водзяць... Калі ўжо вельмі цяжка будзе, падару ў жывы куток, гарцэрам.

— Цудоўна, — сказаў дырэктар. — І сядло ёй купі. Кажуць, некаторым вельмі ідзе...

— Вы, напэўна, прагаладаліся? — нясмела спытала мяне Зіначка.

— Так, — цвёрда адказаў я. — Дайце мне што-небудзь на свой густ. І капусты шаснаццаць порцый. Гэта я з сабой вазьму...

За акном прамычала карова.

Зіначка з абажаннем глядзела на мяне.

**С. Спаскі**



— *Знайшла дзе мыць бялізну...*
— *Дык я ж яе фарбую.*

# НІЎКА



# ЭКАНОМНЫ ЗЯЦЬ

*Ёсць у цешчы зяць любімы,*
*Ведаў ён, як трэба жыць:*
*Як дармовым пажывіцца,*
*Як прывольна адпачыць.*

*Прывязе ён жонку, дзетак,*
*Бы знайшоў які курорт,*
*І жывуць сабе ўсё лета —*
*Ні расходаў, ні турбот.*

*Цешча зяця адкарміла*
*З працавітых добрых рук.*
*Каб вы толькі паглядзелі —*
*Тоўсты, гладкі, як вяпрук.*

*А прыйдзе пара нарэшце,*
*Зяцю ў горад ад'язджаць,*
*На ўспамін ён возьме ў цешчы*
*Вяпручка пудоў на пяць.*

*І нагрузіць ён машыну,*
*Каб вы сведкамі былі,*
*Кумпякоў, кілбас і сала —*
*Ледзьве цягнуць „Жыгулі".*

*Тут сусед яму з дакорам:*
*— Гэй, зяцёк! Табе не сорам,*
*Ну, няўжо ж табе няўцям,*
*Дапамог бы цешчы сам.*

*— Ну, то я ж дапамагаю,*
*Я дабро не збываю,*
*Ды нагоне ж я і зяць.*
*Каб хоць тое-сёе ўзяць.*

**Адам Русак**

### ТАЯ Ж САМАЯ

— Ці не твая новая жонка адчыніла мне дзверы?

— Так, але яна тая ж самая, толькі час ад часу мяняе свой выгляд.

### НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Дзве старыя дзеўкі гутараць:

— Нядаўна я прачытала, што адна дама адвезла ў крэматорый ужо чатвертага мужа.

— Так і бывае, — з сумам адказвае другая. — Мы не можам знайсці ніводнага мужа, а іншыя спальваюць па некалькі.



**...У яго такое чыстае мінулае, што калі яго фатаграфуюць, негатыў атрымліваецца пазітывам.**

**...У яго «ахілесава пята» знаходзіцца ў галаве...**

### РЫБАК

На працягу доўгага часу ў аднаго рыбака заўсёды быў дасканалы ўлоў, а ўсе навокал яго не маглі злавіць нічога. Аднойчы ў нядзелю ён не з'явіўся, і іншыя рыбак заняў яго месца. Аднак паплавок аставаўся нерухомым. Неўзабаве з вады паказалася рыбіна галава.

— Скажыце, калі ласка, — спытала рыба вельмі ветліва, — а ваш таварыш сёння не прыйдзе?





### ЦЯЖАР

Аднойчы ехаў мужык дарогаю, а жанчына ішла ў горад і несла на плячах вялікі клунак.

— Сядайце, кума, — кажа мужык, — я вас падвязу крыху, бо і я ў горад!

Жанчына села ды й трымае клунак на плячах.

— Вы чаму, кума, не паставіце клунка на фуру? Вам жа цяжка яго трымаць!

— Э, дай вам божа здароўе, што мяне вязеце, навошта ж яшчэ гэтакі цяжар класці на фуру.

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*

— *Скараходы пасля фінішу.*

### У СУДЗЕ

— Чаму вы адмаўляеце сваю віну, падсудны? У паліцыі вы ўсё прызналі, — гаворыць суддзя.

— Так, пане суддзя, ды майму адвакату ўдалося пераканаць мяне, што я невінаваты.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*По просьбе Славаміра Сідаровіча з Варшавы зьяшчаем песню*

# БАЛЛАДА О МАТЕРИ

**Слова: Андрея Деменьтьева**
**Музыка: Евгения Мартынова**

Постарела мать за 30 лет,
А вестей от сына нет и нет.
Но она все продолжает ждать,
Потому что верит, потому что мать.
И на что надеется она?
Много лет, как кончилась война.
Много лет, как все пришли назад,
Кроме мертвых, что в земле лежат.
Сколько их в то дальнее село,
Мальчиков безусых, не пришло.

...Раз в село прислали по весне
Фильм документальный о войне.
Все пришли в кино — и стар и мал,
Кто познал войну и кто не знал.
Перед горькой памятью людской
Разливалась ненависть рекой.
Трудно было это вспоминать.
Вдруг с экрана сын взглянул на мать.
Мать узнала сына в тот же миг,
И пронесся материнский крик:

— Алексей! Алешенька! Сынок!
Словно сын ее услышать мог.
Он рванулся из траншеи в бой.
Встала мать прикрыть его собой.
Все боялись — вдруг он упадет.
Но сквозь годы мчался сын вперед.
— Алексей! — кричали земляки. —
— Алексей! — просили. — Добеги!..

Кадр сменился. Сын остался жить.
Просит мать о сыне повторить.
Просит мать о сыне повторить.
И опять в атаку он бежит.
Жив-здоров, не ранен, не убит.
— Алексей! Алешенька! Сынок!
Словно сын ее услышать мог.
Дома все ей чудилось кино...
Все ждала, вот-вот сейчас в окно
Посреди тревожной тишины
Постучится сын ее с войны.





### ХТО НАЙБОЛЬШ ГАВАРКІ?

Як дакладна ўстаноўлена нядаўна статыстыкай, самыя гаваркія людзі на свеце — японцы. Згодна з праведзенымі падлікамі, кожны ўладальнік тэлефона ў краіне карыстаецца ім прынамсі 28 тысяч разоў у год. Адпаведна на кожнага італьянца прыпадае ў сярэднім 16 тысяч тэлефонных размоў. За гэты ж час канадзец здымае тэлефонную трубку 1750 разоў. А самы „малагаваркі абанент" — англічанін — усяго толькі 531 раз.

### ВОГНЕНЕБЯСПЕЧНЫЯ АТЭЛІ

У час пажару ў адным з лонданскіх атэляў загінула 9 чалавек. Пасля гэтага было праведзена абследаванне стану пажарнай бяспекі ва ўсіх гасцініцах англійскай сталіцы. Выявілася, што з трох тысяч гасцініц, якія ёсць у Лондане, толькі 15 адпавядаюць патрабаванням пажарнай бяспекі. Газеты нявесела жартуюць: калі на акіянскіх лайнерах пасажырам выдаюцца індывідуальныя выратавальныя кругі, то ў атэлях трэба б даваць пастаяльцам вядро з вадой і хоць бы вяроўку, каб у выпадку пажару можна было выбрацца праз акно.

### РАСІЗМ ЛЯ АПЕРАЦЫЙНАГА СТАЛА

У адной з бальніц горада Кейптауна (ПАР) пры хірургічнай аперацыі асыставаў урач-індыец. Аднак, толькі ўвайшоўшы ў аперацыйную, ён павінен быў яе пакінуць: белая медыцынская сястра заявіла пратэст супраць прысутнасці „каляровага". Хоць хворы ўжо быў пад наркозам, аперацыю давялося адкласці да прыбыцця белага ўрача.

Па законах ПАР "чорным і каляровым" забараняецца займаць пасады, у падпарадкаванні якіх знаходзяцца белыя.





*Мала быць чалавекам.*
*Трэба быць сваім чалавекам.*